# ЗВЯЗДА

1 лютага 1996 г. чацвер, № 30 (22833)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў




## У БЕЛАРУСІ Ў ЧАРГОВЫ РАЗ ПАВЫШАЮЦЦА ЦЭНЫ НА НАФТУ І НАФТАПРАДУКТЫ

**З 1 лютага ў рэспубліцы павышаюцца цэны на нафту і нафтапрадукты. Згодна з загадам N 15-Х ад 29 студзеня 1996 года прэзідэнта канцэрна «Белнафтапрадукт», цэны на нафтапрадукты, якія рэалізуюцца насельніцтву праз аўтазаправачныя станцыі (АЗС), будуць наступныя: 1 літр аўтамабільнага бензіну маркі АІ-95 «экстра» — 3000 рублёў; АІ-93 — 2600 рублёў; А-76 — 2400 рублёў. Папярэдняе падаражанне было 5 жніўня 1995 года: адзін літр бензіну маркі АІ-95 каштаваў тады 2730 рублёў.**

Павышаюцца таксама цэны на аўтамабільны экспартны бензін. Так, бензін маркі А-96 будзе каштаваць 3100 рублёў за 1 літр, А-92 — 2600 рублёў. Цана 1 літра дызельнага паліва ўсіх марак з 1 лютага складзе 2000 рублёў, прамысловага паліва ўсіх марак — 1500 рублёў.

Чарговае падаражанне нафтапрадуктаў звязана з павышэннем цаны на нафту, якая здабываецца ў рэспубліцы па дзяржзаказу і ўстаноўлена 25 студзеня 1996 года Міністэрствам эканомікі ў памеры 920.000 рублёў за адну тону.

**Яўген ГРУБІЧ, БелаПАН.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 30*

**Аб назначэнні А. М. Абрамовіча намеснікам кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь**

Назначыць **Абрамовіча** Аляксандра Міхайлавіча намеснікам кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

*22 студзеня 1996 г.*
*г. Мінск.*

## КЛІН ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І РАСІЯЙ УБІЦЬ НІКОМУ НЕ ЎДАСЦА

**— Палітыка Беларусі раней была выражана і пацверджана часам адназначна: мы за самую цесную інтэграцыю з Расійскай Федэрацыяй, — сказаў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, прымаючы 30 студзеня ў сваёй рэзідэнцыі міністра замежных спраў Расіі Яўгена Прымакова. — Хто б з прадстаўнікоў краін далекага ці блізкага замежжа ні спрабаваў спекуляваць на нашых адносінах, ім не ўдасца пасварыць два брацкія народы.**

Пацвярджэннем гэтага стаў поўнамаштабны афіцыйны візіт у нашу краіну кіраўніка знешнепалітычнага ведамства Расійскай Федэрацыі Я.Прымакова.

— Я лічу, што цяпер інтэграцыйныя працэсы паміж нашымі дзяржавамі будуць развівацца паскорана, — заявіў журналістам па выніках гэтай сустрэчы Яўген Прымакоў. — Мы вельмі чакаем прыезду Прэзідэнта Беларусі ў Маскву ў сёлетнім сакавіку. Гэта будзе новая вяха ў развіцці двухбаковых адносінаў. Ведаючы і падзяляючы настрой прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына ў руху насустрач брацкаму беларускаму народу, я поўны аптымізму.

Паводле ацэнкі бакоў, для паглыблення інтэграцыі паміж Беларуссю і Расіяй ёсць усе падставы: падрыхтаваны пакет адпаведных дакументаў і створана прававое поле для механізма іх рэалізацыі.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

*Яўген ПРЫМАКОЎ:*

## «МОЙ ПЕРШЫ ВІЗІТ У БЕЛАРУСЬ БЫЎ УДАЧНЫМ»

Працэс эканамічнай інтэграцыі Расіі і Беларусі, яе перспектывы, а таксама праблемы ў эканоміцы дзвюх дзяржаў сталі прадметам размовы кіраўніка расійскага Міністэрства замежных спраў Яўгена Прымакова з прэм'ер-міністрам нашай рэспублікі Міхаілам Чыгірам. Іх сустрэча адбылася вечарам 30 студзеня — у першы дзень афіцыйнага візіту Яўгена Прымакова ў Мінск.

Кіраўнік урада пазнаёміў госця з эканамічнай сітуацыяй у Беларусі, адзначыўшы, што патэнцыял прадпрыемстваў рэспублікі не страчаны і як толькі яны знойдуць канкрэтнага пакупніка сваёй прадукцыі, ранейшыя аб'ёмы вытворчасцей будуць адноўлены.

Адказваючы на пытанні журналістаў наконт адносінаў Расіі да праблемы расшырэння НАТО на Усход, Яўген Прымакоў, у прыватнасці, адзначыў: уступленне краін Усходняй Еўропы ў НАТО аўтаматычна набліжае яго структуры да граніц Садружнасці, а гэта ў сваю чаргу стварае цэлы комплекс праблем. Напрыклад, мы ліквідавалі ракеты сярэдняй далёкасці і лічылі, што дасягнулі вельмі многага. Але калі інфраструктура НАТО наблізіцца да граніцы, то на ёй могуць быць размешчаны тактычныя ракеты з такім жа падлётным часам, як знішчаныя ракеты сярэдняй далёкасці.

Яўген Прымакоў абвергнуў думку аб тым, што Расія паспрабуе захаваць ядзерны патэнцыял на тэрыторыі Беларусі ў якасці рэакцыі ў адказ на расшырэнне НАТО на Усход.

Раніцай 31 студзеня кіраўнік знешнепалітычнага ведамства Расіі Яўген Прымакоў сустрэўся са Старшынёй Вярхоўнага Савета Беларусі Сямёнам Шарэцкім. Як адзначыў госць у пачатку гутаркі, яго першы афіцыйны візіт на Беларусь вельмі ўдачны і насычаны. Ён падкрэсліў, што паглыбленне інтэграцыйных працэсаў з краінамі СНД, з Беларуссю з'яўляецца стратэгічнай лініяй палітыкі Масквы.

Каменціруючы па просьбе карэспандэнта БЕЛТА вынікі праведзеных у Вярхоўным Савеце перагавораў, Сямён Шарэцкі заявіў: беларускі бок з вялікім задавальненнем адзначае той факт, што Беларусь з'яўляецца адной з першых краін СНД, якую наведаў новы міністр замежных спраў Расіі. Асноўным прадметам праведзеных перагавораў, паводле яго слоў, сталі стратэгічныя пытанні ўзаемаадносінаў дзвюх краін.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, Ларыса ЛАЗАР, Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ, БЕЛТА.**

# РОЗГАЛАС

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 40*

**Аб назначэнні А. У. САСНОЎСКАГА міністрам культуры Рэспублікі Беларусь**

Назначыць Сасноўскага Аляксандра Уладзіміравіча міністрам культуры Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*31 студзеня 1996 г. г. Мінск.*

## МАЯ МІЛІЦЫЯ МЯНЕ БЕРАЖЭ... І СЛУХАЕ

**Не паспеў парламент сфарміраваць свае рабочыя органы, як кіраўніку адной з камісій — па нацыянальнай бяспецы і барацьбе са злачыннасцю — сп. Карпіевічу прыйшлося выступаць перад калегамі з першай справаздачай.**

А падставай паслужыў факт несанкцыяніраванага падключэння да дамашняга тэлефона Старшыні Вярхоўнага Савета Сямёна Шарэцкага. Але, як высветлілася ў ходзе расследавання, на недатыкальнасць асабістага жыцця і прыватных перамоў сям'і сп. Шарэцкага замахнуліся зусім не шпіёны з далёкіх заморскіх дзяржаў, а родная міліцыя. А можа і не замахнулася, а проста схібіла, забыўшыся на чыны. Па словах Мікалая Карпіевіча, аднойчы С. Шарэцкі, зняўшы трубку свайго тэлефона, нямала быў здзіўлены тым фактам, што па ім ужо нехта размаўляе. Выявілася, што без узгаднення і дазволу спікера, пост аховы, які неўзабаве пасля выбрання Шарэцкага кіраўніком парламента быў устаноўлены ў доме, дзе ён жыве, паралельна падключыўся да тэлефона спікера.

У выніку сяржант, які нёс варту, звольнены. Некалькі сяржантаў, якім ён дазволіў карыстацца сувяззю, атрымалі папярэджанне аб службовай неадпаведнасці, як і маёр Краўцоў, што непасрэдна адказваў за ўстаноўку тэлефона. Камандзіры міліцыянераў абмежаваліся вымовамі і папярэджаннямі.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*№ 36*

**Аб зацвярджэнні важнейшых параметраў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996 год**

1. Зацвердзіць важнейшыя параметры прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь на 1996 год:

| | *1996 год у працэнтах да 1995 года (у супастаўных цэнах)* |
|---|---|
| Валавы ўнутраны прадукт | 100-101 |
| Прадукцыя прамысловасц | 100 |
| Прадукцыя сельскай гаспадаркі ва ўсіх катэгорыях гаспадарак | 101,5-102 |
| Вытворчасць тавараў народнага спажывання - усяго | 101 |
| *у тым ліку:* | |
| харчовых | 100-101 |
| нехарчовых | 101 |
| Рознічны тавараабарот | 97 |
| Платныя паслугі насельніцтву | 95 |
| Грашовыя даходы насельніцтва | 144 |
| Аб'ём знешняга гандлю | 102-103 |
| Капітальныя ўкладанні за кошт усіх крыніц фінансавання | 91-92 |
| Рост спажывецкіх цэн | у 1,5 раза |

2. Прадугледзець у 1996 годзе ўвод у дзеянне аб'ектаў сацыяльна-культурнай сферы за кошт усіх крыніц фінансавання:

| | |
|---|---|
| жылых дамоў агульнай плошчай | 2766 тыс.кв. метраў; |
| агульнаадукацыйных школ | на 9,1 тыс. месцаў; |
| дашкольных устаноў | на 2,5 тыс. месцаў; |
| клубаў і Дамоў культуры | на 2,3 тыс. месцаў; |
| бальніц | на 2,8 тыс.ложкаў; |
| амбулаторна-паліклінічных устаноў | на 4,5 тыс. наведванняў у змену. |

3. Лічыць асноўнымі задачамі на 1996 год стабілізацыю вытворчасці і ўзроўню жыцця насельніцтва, зніжэнне ўзроўню інфляцыі ў сярэднім да 2,5 працэнта ў месяц.

4. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

зацвердзіць на 1996 год аб'ёмы паставак тавараў для рэспубліканскіх дзяржаўных патрэб, інвестыцыйную праграму, ліміты цэнтралізавана размяркоўваемых рэсурсаў і ў месячны тэрмін давесці іх да міністэрстваў, іншых цэнтральных органаў кіравання, абласных і Мінскага гарадскога выканаўчых камітэтаў, аб'яднанняў, прадпрыемстваў, арганізацый, устаноў;

сістэматычна ажыццяўляць кантроль за дасягненнем важнейшых параметраў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь, зацверджаных на 1996 год.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*30 студзеня 1996 г.*
*г. Мінск.*

## НАСЕЛЬНІЦТВА ПАВЯЛІЧЫЛАСЯ ТОЛЬКІ Ў СТАЛІЦЫ. АЛЕ ЗА КОШТ МІГРАЦЫІ

**Па ўдакладненых даных Дзяржкамстата, на 1 студзеня на тэрыторыі нашай краіны пражывала 10 мільёнаў 313,1 тысячы чалавек. З іх 7 мільёнаў 109,2 тысячы з'яўляліся жыхарамі гарадоў, і толькі 3 мільёны 203,9 тысячы — вяскоўцамі.**

«Звязда» ўжо паведамляла, што за 1995 год колькасць насельніцтва Беларусі зменшылася на 32 тысячы чалавек. Цяпер мы маем інфармацыю па асобных рэгіёнах. Так, за мінулы год найбольшыя страты панесла Віцебская вобласць — 9,5 тысячы жыхароў. З улікам гэтага цяпер на Віцебшчыне пражывае 1 мільён 432,8 тысячы чалавек. Далей сумны спіс працягвае Міншчына (страты за 1995-ы — 8,4 тысячы, зараз насельніцтва вобласці складае каля 1 мільёна 597,5 тысячы), Магілёўшчына (адпаведна — 6 тысяч і 1 мільён 257,3 тысячы), Гомельшчына (5,4 тысячы і 1 мільён 594,5 тысячы), Гродзеншчыны (4,7 і 1 мільён 210,9 тысячы), нарэшце — Брэстчына (3,8 тысячы і 1 мільён 513,9 тысячы чалавек). Праменем святла на гэтым фоне выглядае хіба што беларуская сталіца, колькасць жыхароў якой за мінулы год павялічылася на 5,8 тысячы і склала 1 мільён 706,2 тысячы чалавек. Аднак нават гэты факт абнадзейвае не вельмі. Бо відавочна: прырост насельніцтва ў Мінску адбыўся не натуральным шляхам, а па невясёлай традыцыі апошніх часоў — за кошт міграцыйных працэсаў.

**Сяргей ГРЫБ.**

## ФРАКЦЫЯ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТАЎ НЕ ВЫТРЫМАЛА ПРАВЕРКІ ЧАСАМ

**На пачатку фарміравання дэпутацкіх аб'яднанняў у Вярхоўным Савеце з'яўленне дэпутата Віктара Кучынскага ў саставе сацыял-дэмакратычнай фракцыі «Беларусь» выглядала сама меней дзіўна.**

Больш лагічным было б знаходжанне гэтага дэпутата ў «Згодзе», сярод калег з прэзідэнцкай «вертыкалі». І вось развязка гэтай палітычнай калізіі не прымусіла сябе доўга чакаць. На мінулым тыдні Віктар Кучынскі пакінуў сацыял-дэмакратаў, адначасова паклаўшы канец і існаванню самой фракцыі.

Згодна з Законам «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь» мінімальная колькасць дэпутатаў, якая патрэбна для стварэння фракцыі, складае 15 чалавек. Як вядома, ініцыятары стварэння фракцыі — перадвыбарны блок СДС, у які ўваходзяць БСДГ, ПНЗ і ПУАЗ, правялі ў парламент 12 дэпутатаў.

Да таго ж сп. Навасяд, член Партыі ўсебеларускага адзінства і згоды, не апраўдаў чаканняў сваіх калег і далучыўся да фракцыі «Грамадзянскае дзеянне». І дэпутаты, і назіральнікі добра

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## БЕЛАРУСЬ І УКРАІНА РАСШЫРАЮЦЬ СУПРАЦОЎНІЦТВА Ў ВАЕННАЙ СФЕРЫ

**У час афіцыйнага візіту міністр абароны Украіны В. Шмараў наведаў Беларускае оптыка-механічнае аб'яднанне, дзе вырабляюць унікальныя прыцэлы для розных відаў стралковай зброі. Гэты здымак зроблены на выстаўцы прадукцыі, дзе задаволены ўкраінскі міністр вельмі яскрава адзначае якасць беларускіх вырабаў.**

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

**31 студзеня міністры абароны Беларусі Леанід Мальцаў і Украіны Валерый Шмараў падпісалі падагульняючыя дакументы перагавораў паміж кіраўнікамі ваенных ведамстваў і кансультацый у шасці двухбаковых рабочых групах.**

Міністрамі быў зацвердажны план супрацоўніцтва паміж міністэрствамі абароны Украіны і Беларусі на 1996 год і падпісана шэсць пратаколаў, якія датычаць праблем абмену інфармацыяй па пытаннях бяспекі палётаў і надзейнасці авіяцыйнай тэхнікі, а таксама выканання сумесных навукова-даследчых работ у гэтай галіне; аб супрацоўніцтве паміж ваеннымі ведамствамі ў галіне проціпаветранай абароны; аб расшырэнні супрацоўнітцва ў ваеннай сферы; аб парадку запраўкі ваенных паветраных суднаў і ўзаемаразліках за выдадзенае паліва; аб вучэбна-метадычным і навуковым супрацоўніцтве паміж навучальнымі і навукова-даследчымі ўстановамі ВПС Украіны і Ваеннай акадэміі Беларусі; аб намерах у галіне ваенна-тэхнічнага супрацоўніцтва.Як зазначыў Л. Мальцаў, гэта быў першы візіт міністра абароны Украіны ў Беларусь, які стаў лагічным працягам украінска-беларускіх перагавораў на ўзроўні прэзідэнтаў і прэм'ер-міністраў. Л. Мальцаў выказаў упэўненасць, што гэты візіт дасць вялікі штуршок ваенна-тэхнічнаму супрацоўніцтву дзвюх краін, прычым не толькі на ўзроўні міністэрстваў, але і паміж асобнымі вайсковымі часцямі нашых дзяржаў.

На думку міністра абароны Украіны В. Шмарава, змест украінска-беларускіх кантактаў у ваеннай сферы прадыктаваны складаным становішчам эканомікі дзвюх краін, калі ва ўмовах малых рэсурсаў трэба шукаць магчымасць для аптымальнага выкарыстання таго, што ёсць, і эфектыўнай міждзяржаўнай кааперацыі. У нашых краін аднолькае ўзбраенне, афіцэры вучыліся ў адных навучальных установах, служылі ў свой час разам, у нас шмат падобных праблем.

«Мы разглядаем адносіны з Беларуссю у ваенна-тэхнічнай сферы як стратэгічныя», — заявіў В. Шмараў на падагульняючай канферэнцыі 31 студзеня у мінскім Доме афіцэраў. В. Шмараў падкрэсліў прыярытэтнасць для Украіны прынцыпу супрацоўніцтва на двухбаковай аснове, зазначыўшы, што Украіна, паводле сваіх палітычных прынцыпаў і ваеннай дактрыны, не збіраецца ў бліжэйшы час уваходзіць у сістэму бяспекі краін СНД, аднак і не мае намеру прасіцца ў НАТО, як выказваюцца некаторыя. Украіна аддае перавагу мяккім формам супрацоўніцтва з гэтым ваенным блокам: «Партнёрства дзеля міру», сумесная міратворчая дзейнасць у былой Югаславіі і інш.

Адказваючы на пытанні аб адносінах да праблемы расшырэння НАТО на Усход, Л. Мальцаў і В. Шмараў падкрэслілі, што яны з'яўляюцца праціўнікамі фарсіраванага расшырэння гэтага блока, што гэта праблема на доўгую перспектыву, інакш адваротнае можа зноў прывесці да стану процістаяння ў Еўропе.

Гаворачы аб канкрэтных дамоўленасцях паміж ваеннымі ведамствамі ў інтэрв'ю газеце «Звязда», намеснік начальніка тылу УС Украіны Мікалай Бутэнка зазначыў, што было дасягнута поўнае ўзаемаразуменне па супрацоўніцтву ў сферы матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, рамонту ваеннай тэхнікі, харчовага і рэчавага забеспячэння войскаў.

Камандуючы войскамі паветранай абароны Украіны Міхаіл Лапацін выказаў шкадаванне аб тым, што яму раней не ўдалося пабываць на нашым ВА «Агат», дзе вырабляюцца унікальныя ўзоры абсталявання для забеспячэння аўтаматызацыі кіравання войскамі і збору інфармацыі. Украіна супрацоўнічала ў гэтым плане з фірмамі ЗША, Францыі, Італіі, не ведаючы, што побач, у Беларусі, вырабляюцца зусім не горшыя сістэмы.

Выконваючы абавязкі намесніка міністра абароны Украіны па ўзбраенню Леў Гнаценка ў размове з карэспандэнтам «Звязды» зазначыў, што да гэтага часу супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі ў плане абмену ўзбраеннямі было слабым, аднак пасля візіту адкрываецца магчымасць яго сур'ёзна развіць, падрыхтаваны аб'ёмны пералік камплектуючых і запасных частак да ваеннай тэхнікі, якімі Беларусь і Украіна будуць абменьвацца на бартэрнай аснове. «Мы вельмі зацікаўлены адзін у адным. Справа ў тым, што Украіне ў спадчыну ад СССР дасталіся лепшыя рамонтныя прадпрыемствы, здольныя наладжваць амаль усю наменклатуру ўзбраенняў, і ў гэтым зацікаўлена Беларусь. У сваю чаргу Беларусь валодае вельмі вялікім запасам узбраенняў, боекамплектаў, а паколькі наша армія значна большая, чым беларуская, то мы зацікаўлены ў гэтым», — зазначыў Леў Гнаценка. Акрамя таго, ён заявіў, што ў вялікай ступені Украіна зацікаўлена ў наладжванні плённай кааперацыі і абмену вопытам у галіне утылізацыі састарэлых боепрыпасаў. Адна краіна не можа наладзіць утылізацыю усіх відаў боепрыпасаў, таму трэба кааперавацца з партнёрамі.

Як зазначыў Л. Гнаценка, канкрэтныя аб'ёмы, пералікі камплектуючых, патрэбнасці ў рамонце і неабходнай аплаце за падобныя ўзаемныя паслугі будуць у далейшым абмеркаваны і ўзгоднены ваеннымі экспертамі дзвюх нашых краін. Такім чынам, вайсковае супрацоўніцтва будзе значна расшырацца дзеля агульнай бяспекі і стабільнасці.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ПЯТНАЦЦАЦЬ АБВІНАВАЧАННЯЎ ПРЭЗІДЭНТА А. ЛУКАШЭНКІ Ў АДРАС ЭКС-СТАРШЫНІ НАЦБАНКА БЕЛАРУСІ С. БАГДАНКЕВІЧА

*МАНАЛОГ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ А. ЛУКАШЭНКІ ЗАПІСАЎ КАРЭСПАНДЭНТ «ІНТЭРФАКСА»*

**— Аляксандр Рыгоравіч! У сваім чатырохгадзінным выступленні на закрытым пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета, як ужо стала вядома сродкам масавай інфармацыі, вы закранулі шэраг канцэптуальных праблем дзяржаўнага будаўніцтва. Вядома таксама, што ў вашым выступленні ўпершыню былі абнародаваны вынікі праверкі Нацыянальнага банка, якую праводзіла дзяржаўная камісія.**

**Хоць стэнаграмы выступленняў старшыні Канстытуцыйнага суда В. Ціхіні і былога галоўнага банкіра рэспублікі С. Багданкевіча былі цалкам апублікаваны па пратэкцыі дэпутатаў В. Ганчара і С. Калякіна, ваш даклад у друку, на жаль, не з'явіўся.**

**Назіральнікі называюць дзіўным і паводзіны двух дыяметральна процілеглых па сваіх палітычных поглядах парламентарыяў, якія клапаціліся аб публікацыі не даклада кіраўніка дзяржавы, а былога банкіра.**

**Паколькі да дзейнасці такой важнай сферы эканомікі, як банкаўская, заўсёды, і асабліва цяпер, павышаная цікавасць як з боку дзелавых колаў, так і простых грамадзян, хацелася б нарэшце праясніць сітуацыю. Што ж усё-такі здарылася з нашай банкаўскай сістэмай за гады кіравання ёю С. Багданкевічам?**

— Асноўная мэта майго выступлення была ў тым, каб паказаць фактычную ролю банкаўскага сектара ў ажыццяўленні рынкавых пераўтварэнняў у эканоміцы, праведзенні грашова-крэдытнай палітыкі на карысць развіцця вытворчасці, паляпшэння ўзроўню жыцця людзей. А ў праламленні праз гэта дадзена была крытыка дзейнасці Нацыянальнага банка і пана Багданкевіча. Без аналізу прычын крызісу і выпрацоўкі шляхоў выхаду з яго нельга рухацца далей.

А што датычыцца неправеранасці абнародаваных мной фактаў, як гэта хітра сцвярджае С. Багданкевіч, дык ён выдатна ведае, што ўсё афіцыйна зафіксавана ў акце нядаўна праведзенай праверкі Нацыянальнага банка. Гэты акт падпісаны спецыялістамі самога Нацбанка і работнікамі пракуратуры.

**Першае.** Банкаўская сістэма працавала пад кіраўніцтвам С. Багданкевіча 4 гады. Гэта немалы тэрмін, якія ж вынікі яе дзейнасці за гэты перыяд?

Пан Багданкевіч прыняў у 1991 годзе добра адладжаную сістэму, якая налічвала 13 банкаў, што працавалі прыбыткова і мелі статутны капітал у памеры 800 млн. долараў ЗША.

Да моманту выхаду яго ў адстаўку сетка банкаў узрасла амаль у чатыры разы (47 банкаў), хоць сумарны капітал іх скараціўся да пагражальных памераў — 100 млн. долараў. Па С. Багданкевічу ўсё лагічна: капітал з'едзены інфляцыяй — і канец. А калі так, дык і патрабаваць за тое, што здарылася, няма з каго і няма для чаго.

Лоўка ж атрымліваецца. Значыцца, на інфляцыю можна спісаць усю безгаспадарчасць і беззаконнасць, што тварылася ў банкаўскай сістэме ў перыяд кіравання ёю пана Багданкевіча. А як быць з тым фактам, што прыбытак банкаў накіроўваўся ў першачарговым парадку не на папаўненне статутнага капіталу, а на будаўніцтва офісных памяшканняў банкаў, аснашчэнне іх дарагім, не патрэбным для тэхналагічнага працэсу абсталяваннем, набыццё іншамарак, выплату незаробленых дывідэндаў? Мала таго, пры адсутнасці элементарнага кантролю Нацыянальнага банка большасць камерцыйных банкаў ішлі на гэтыя расходы ў лік будучага, яшчэ не заробленага прыбытку. На 1 кастрычніка «аматары» жыць у доўг давялі гэтыя расходы да 884 млрд. рублёў пры атрыманым прыбытку 712 млрд. рублёў. Але, аказваецца, і гэтага мала. У цэлым па сістэме камерцыйнымі банкамі на гэтыя мэты затрачана яшчэ сродкаў укладчыкаў, уключаючы насельніцтва, амаль 2 трлн. рублёў (каля 180 млн. долараў).

Думаецца, што не толькі пану Багданкевічу, доктару эканамічных навук, прафесару, павінна быць зразумела, але і простаму абывацелю, што гэтыя астранамічныя расходы інфляцыяй і не пахнуць. Тут больш злачынная безадказнасці.

І тут заканамерна паўстае пытанне: на якую крэдытную падтрымку можна разлічваць ад такіх банкаў, калі яны бяздумна транжыраць уласныя і прыцягнутыя сродкі, а потым ледзь зводзяць канцы з канцамі. Ці не пра гэта сведчаць паказчыкі рэнтабельнасці актываў банкаў? Напрыклад, былы Ашчадбанк — мінус 1,76 працэнта, АКБ «Магнатбанк» — мінус 3,8 працэнта, «Беларускі народны банк» — мінус 2,07 працэнта, АКБ «Садружнасць» — мінус 5,6 працэнта, «Пріорбанк» — мінус 0,09 працэнта.

Паказчыкі прамых страт па асобных банках на 1 кастрычніка 1995 г. выглядаюць наступным чынам:

| | *у млрд. руб.* |
|---|---|
| Ашчадбанк | - 64,3 |
| АКБ «Комплексбанк» | - 2,4 |
| АКБ «Дукат» | - 57,2 |
| АКБ «Беларускі народны банк» | -1,0 |
| АКБ «Новаком» | - 0,2 |
| АКБ «Садружнасць» | - 3,2 |
| АКБ «Універсал» | - 0,1 |
| АКБ «Элітбанк» | - 0,4 |
| АКБ «Альянсбанк» | - 3,1 |
| АКБ «Еўрапейскі» | - 7,9 |
| АКБ «Сож» | - 6,4 |

Усяго сума страт перавысіла 146 млрд. рублёў. У параўнанні з аналагічным перыядам 1994 года рэнтабельнасць знізілася ў 3 разы (з 112,2 працэнта да 32,7 працэнта), сума пратэрмінаваных крэдытаў і працэнтаў па іх павялічылася ў 6 разоў і склала 1,9 трлн. руб.

**Другое.** Пан Багданкевіч у сваім інтэрв'ю газеце «Имя» ад 19.01.95 г. на пытанне адносна продажу Нацыянальным банкам 7 млн. долараў ЗША АКБ «Белбалтыя» (г. Мінск) заявіў, што Нацыянальны банк ажыццявіў толькі размен 880 тыс. долараў ЗША для падмацавання абменных пунктаў «Белбалтыі». Дык вось, карыстаючыся любімым выразам пана Багданкевіча, прыведзеная ў газеце аргументацыя ёсць не што іншае, як хлусня, паколькі ў акце праверкі работы Нацыянальнага банка дакументальна пацверджаны факт продажу гэтаму банку 7 млн. долараў ЗША (пасведчанне № 32008/1491 ад 28.09.95г.).

На многія разважанні наводзіць сам факт куплі гэтай валюты ў адным з нью-йоркскіх банкаў.

Указаныя 7 млн. ЗША, знайшоўшы зручную прычыну правядзення інтэрвенцыі на рынку наяўнай замежнай валюты, выдалі галоўным упраўленням Нацыянальнага банка па абласцях. Пры гэтым у спецыяльнай тэлеграме, накіраванай галоўным упраўленням, указвалася, што курс продажу валюты можа ўстанаўлівацца на 30—100 рублёў ніжэй за найменшы курс, устаноўлены камерцыйнымі банкамі, г. зн. валютнаму «хапугу» давалася магчымасць атрымаць свой даход тут жа, перайшоўшы ад аднаго акенца абменнага пункта да другога.

Гэтая акцыя, падмацаваная спецыяльным распараджэннем ад 18 верасня 1995 г. аб парадку размяшчэння і выкарыстання гэтай валюты, якое праз два дні, 20 верасня, адмяняецца новым распараджэннем № 31018/1315, у адпаведнасці з якім галоўныя ўпраўленні НБ вяртаюць наяўную валюту ў Цэнтральнае сховішча НБ. Узнікае законнае пытанне: для чаго ўсё гэта рабілася? Адказ гранічна ясны. Аказваецца, што ў былога старшыні Нацыянальнага банка існуюць свае, асаблівыя адносіны з АКБ «Белбалтыя», якому і прызначаліся гэтыя 7 млн. долараў.

У выніку гэтай аперацыі наш Нацыянальны банк атрымаў ад АКБ «Белбалтыя» камісію ў суме 2640 долараў ЗША, заплаціўшы пры гэтым амерыканскаму банку 19600 долараў ЗША.

Увесь гэты прыбытак ад рэалізацыі наяўнай валюты ў выніку дастаецца « самаму дастойнаму» з камерцыйных банкаў.

Праўда, застаецца пытанне. Навошта усё ж завезена з замежных банкаў 7 млн. долараў у новенькіх, у спецупакоўцы, банкнотах? Чаму перададзены толькі аднаму банку? Чаму па нізкаму курсу? Хто адкажа — Багданкевіч ці пракуратура?

**Трэцяе.** «Абвінавачанняў у свой адрас не прызнаю» — так сказана панам Багданкевічам у мінулай дзейнасці. А ў новай — прыйшоў наводзіць парадак і пісаць законы.

Аднак, будучы на пасадзе старшыні праўлення Нацыянальнага банка, маючы права заканадаўчай ініцыятывы, за гады работы праз Вярхоўны Савет панам Багданкевічам праведзены толькі два законы, што датычацца банкаўскай дзейнасці, і то вельмі далёкія ад дасканаласці.

Можна сказаць, што законапраектнай дзейнасцю ў Нацбанку ён сябе ніколі не абцяжарваў, хоць сістэма мае вострую патрэбу ў заканадаўчых і нарматыўных дакументах. Гэтая прававая «беззаконнасць» цяпер характэрная для рэгулявання многіх аспектаў банкаўскай дзейнасці, асабліва ў частцы фінансавых «МММ» і іншых кампаній, траставых і лізінгавых аперацый, вэксальным абароце і іншых. Да чаго гэта прыводзіць? Напрыклад, на працягу доўгага перыяду ў «Пріорбанку» радавым эканамістам учыняліся махлярскія аперацыі шляхам залічэння на «ліпавыя» рахункі валюты з наступным яе знішчэннем як за мяжой, так і ў нас у рэспубліцы. «Пріорбанк» панёс вялікія страты, закончана расследаванне. І гэты выпадак не адзінкавы.

Дык якія ж банкі пакінуў пан Багданкевіч у спадчыну, калі радавы банкір мог на працягу доўгага часу распараджацца народнымі грашыма як сваімі?

**Чацвёртае.** Так, заканатворчасцю Нацыянальны банк сябе не абцяжарваў, але ўжо калі браўся, дык пра сябе ніколі не забываў.

Шэраг артыкулаў Закона «Аб нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь» складзены такім чынам, што фактычна выводзяць Нацыянальны банк з-пад кантролю Вярхоўнага Савета (артыкулы 8, 10, 13).

Прадастаўленае Вярхоўным Саветам Беларусі Нацыянальнаму банку права вызначаць на пасяджэннях праўлення расходы на ўтрыманне свайго апарату паставіла ў няроўныя ўмовы галоўны банк рэспублікі, выканаўчую і судовую ўлады. Так, расходы на ўтрыманне апошніх вызначаюцца Законам «Аб дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь» на кожны чарговы год і могуць быць зменены толькі Вярхоўным Саветам, у той час як расходы на сваё ўтрыманне Нацбанк зацвярджае і змяняе самастойна.

Старшыня праўлення Нацыянальнага банка быў надзелены паўнамоцтвамі прымаць аднаасобныя рашэнні па самых жыццёва важных для эканомікі праблемах: асноўных напрамках грашова-крэдытнай палітыкі, функцыянаванню валютнага і крэдытнага рынкаў, гранічных памерах крэдытавання ўрада і банкаў, велічыні дысконтнай стаўкі і іншых.

Такім чынам, у пана Багданкевіча была неабмежаваная свабода дзеянняў, аднак накіроўваў ён яе не на карысць эканомікі рэспублікі. А цяпер спрабуе выратаваць свой аўтарытэт на старонках друку, крыўдзячыся і запэўніваючы ўсіх, што яго дзейнасць прадстаўлена ў скажоным святле.

**Пятае.** З'яўляючыся «хросным бацькам» стварэння ў рэспубліцы сістэмы прыватных і іншых акцыянерных банкаў, пан Багданкевіч ставіць сабе ў заслугу і ганарыцца тым, што даў ім права на жыццё шляхам «улівання» дзяржаўных грошай на іх станаўленне, якія паспяхова потым пераўтвораны пры дапамозе арганізаванай гіперінфляцыі з дзяржаўнай формы ўласнасці ва ўласнасць прыватных уладальнікаў.

Бо цяперашнія буйнейшыя банкі: «Белаграпрамбанк», «Белпрамбудбанк», «Белбізнесбанк» выраслі са 100-працэнтнага дзяржаўнага капіталу, які ствараўся працай некалькіх пакаленняў працаўнікоў, а ў выніку раптоўна апынуўся ў прыватных руках. Сёння доля недзяржаўнай уласнасці ў статутным фондзе «Белбізнесбанка» складае 90 працэнтаў, «Белпрамбудбанка» — 82 працэнта, «Белаграпрамбанка» — 76 працэнтаў, прычым больш за палову пакета іх акцый належыць калектывам, фізічным асобам. Натуральна, што асноўная маса прыбытку гэтых банкаў паступае «выбраным», якія ўмеюць рабіць «грошы з грошай», а не народу, на сродкі якога і былі створаны банкі.

Але галоўнае, што дзяржаўныя грошы ў выглядзе астаткаў на бюджэтных рахунках працавалі на прыватны сектар практычна бясплатна. А, як вядома, у рыначных умовах трэба плаціць за ўсё, або адпрацоўваць бясплатнае. Ці, на думку былога галоўнага банкіра, рынак — гэта калі дзяржаўная ўласнасць выкарыстоўваецца зусім бясплатна?

Чаго тут больш: нявопытнасці ў правядзенні палітыкі рэформаў, што праявілася ў неадэкватнасці рэфарміравання сектараў эканомікі, ці няўменне валодаць, кантраляваць, рэгуляваць сітуацыю?

Цяпер выканаўчая ўлада спрабуе выправіць гэтае становішча.

**Шостае.** Абвясціўшы рыначныя метады работы, пан Багданкевіч стаў апрабіраваць іх у банкаўскай сістэме. У выніку 5 банкаў ужо банкруты, а 8 — на мяжы гэтага.

Чаму гэта здарылася? Нават прафесару эканомікі аказалася не пад сілу кіраванне такой унікальнай сістэмай, як банкаўская. А што гаварыць пра людзей, далёкіх ад банкаўскай сферы, якім ён даверыў кіраваць велізарнымі грашовымі патокамі?

Толькі 15 старшынь камерцыйных банкаў, ці адна трэць з іх, адпавядаюць патрабаванням па прафесіянальнай падрыхтоўцы, на якую любіць спасылацца Багданкевіч.

«Лепшы сябар» Багданкевіча В. Дуднік, які прэтэндаваў на пасаду старшыні праўлення гомельскага кааператыўнага банка «Сож», двойчы не быў атэставаны па прычыне адсутнасці ў яго вышэйшай эканамічнай адукацыі (па спецыяльнасці ён фізік), а таксама стажу практычнай работы ў банкаўска-фінансавай сістэме. З трэцяга заходу з благаслаўлення Багданкевіча ён гэтую пасаду ўсё ж атрымаў. І што ў выніку? Банк — банкрут. І такіх прыкладаў нямала.

Такім чынам, банкаўская сістэма ў перыяд кіраўніцтва пана Багданкевіча развівалася хаатычна, працуючы чыста дзеля ўласных інтарэсаў. Ды і не магло быць інакш? Яблык ад яблыні падае недалёка. Бо замест нагляду, які быў прадпісаны па закону, пад кіраўніцтвам Багданкевіча сам апарат Нацыянальнага банка дапускаў грубейшыя парушэнні.

Нацыянальны банк і ўся банкаўская сістэма з лёгкай рукі іх кіраўніка аказаліся паражонымі заганай набыцця «Мерседэсаў» і стварэння «астраўкоў дабрабыту» за кошт грошай народа.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

